Cana numaru 10 hr.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

Вільня, Травень 1937 г.

# З Беларускага Палетку

АДНАДНЁЎКА

# Спыненьне „БЕЛАРУСКАЙ КРЫНІЦЫ“

**У зьвязку з канфіскатай № 2 з 1937 г. „Беларускай Крыніцы“, Віленскі Акружны Суд на паседжаньн дн. 15 красавіка 1937 г. пастанавіў гэту канфіскату зацьвердзіць, а само выдавецтва „Беларускай Крыніцы“ спыніць („завесіць“).**

## У дзень І-га Траўня

Дзень Першага Траўня — гэта ўсясьветнае, міжнароднае сьвята. Гэта Сьвята Працы. Сьвяткуе яго ўвесь культурны сьвет. Сьвяткуем яго й мы Беларусы. Сьвята гэта было сьпярша бадай выключна сьвятам фабрычных работнікаў. Сяньня-ж гэта ёсьць сьвята ўсіх людзей працы агулам.

Паўстала Сьвята Першага Траўня, як Сьвята Працы, у XIX ст. сярод работніцкага пролетарыяту, зарганізаванага на плятформе навукі Маркса. Работнікі ў гэты дзень арганізавалі паходы і несьлі транспарэнты, на якіх былі напісаны клічы клясавай барацьбы, што мела прынесьці соцыялістычны на сьвеце лад. Бліжэйшай аднак мэтай гэнага пролетарыяту была здабыча для работніцкай клясы палітычных і агульна - грамадзкіх правоў. Рэалізацыя гэтых плянаў мела адбывацца між іншым у рамах легальнай парлямэнтарнай барацьбы.

Мяшчанства, вызваленае з палітычнай і эканамічнай няволі дзякуючы Вялікай Францускай Рэвалюцыі, ня было склоннае правы свае пашырыць і на пролетарыят. Для гэтага шмат трэба было яшчэ барацьбы. І барацьба гэта вялася праз усё XIX ст. і скончылася здабычай для работніцкай клясы роўных палітычных правоў.

Але роўналегла з палітычнай эманцыпацыяй работніцкай клясы адбываўся ў розных дзяржавах Эўропы развой капіталізму, які сільнымі клешчамі браў у свае абоймы палітычнае й агульна-грамадзкае жыцьцё работніка. Барацьба такім чынам завастралася й павялічвалася. Апрача барацьбы палітычнай цяпер ужо трэба было зьвярнуць так-жа ўвагу на барацьбу сьцісла соцыяльную, іменна на соцыяльнае ўставадаўства. І вось-жа першая чвертка XX ст. была сьледам значнай рэалізацыі дамаганьняў работнікаў і ў гэтай галіне.

Выраўнаваць аднак належна антаганізмаў і грамадзкіх супярэчнасьцяў між капіталам і работніцкай клясай не ўдалося. На арэну гэтага „раўнаньня“, у ролі „рэгулятара“ ў нашых часах у некаторых дзяржавах Эўропы выступіла дзяржава, якая яўна стала па старане капіталізму, бяручы яго ў свае рукі і пад сваю „апеку“, падшываючыся нават пад работніцкі рух і нават ўстанаўляючы дзень Першага Траўня агульна-дзяржаўным сьвятам, як гэта зрабіла гітлероўская Нямеччына. Антаганізмы гэтак між капіталам і працай яшчэ больш павялічыліся і пашырыліся й Сьвята Першага траўня сталася сяньня сьвятам Працы агулам, сьвятам усіх працоўных.

Такім чынам мэтай сьвята Першага Траўня сяньня зьяўляецца маніфэстацыя патрэбы здабыцьця поўных правоў палітычных і грамадзка-эканамічных для тых клясаў і народаў, якія іх ня маюць, а так-жа маніфэстацыя значэньня працы ў грамадзянствах і патрэба яе поўнага вызваленьня ад эксплёатацыі капіталам. Сяньня бадай прадусім дзень Першага Траўня ёсьць сьвятам Працы. І гэта цалком зразумела, бо ад вызваленьня Працы залежа фактычна вызваленьне палітычнае й соцыяльнае.

Дзень Першага Траўня з усім сьветам працы сьвяткуем такжа й мы Беларусы. На гэта маем цэлы рад прычын. Прадусім Сьвята Працы, — гэта вялікі, агульна-людзкі Ідэал. Мы Беларусы йдзём да культуры, да поступу, да свайго нацыянальнага адраджэньня й таму павінны йсьці разам з тымі клясамі й народамі, якія гэны агульна-людзкі, вялікі Ідэал здабываюць. Далей, Беларускі народ яшчэ не здабыў сабе палітычных і агульна-соцыяльных правоў нароўні з іншымі народамі, а так-жа й Праца Беларускага народу яшчэ ня ёсьць вольнай ад эксплёатацыі яе капіталам. Вось-жа дзеля гэтых прычын дзень Першага Траўня сьвяткуем і мы Беларусы.

Такім чынам дзень Першага Траўня, дзень Сьвята Працы, мае вялікае значэньне для ўсіх працуючых на ўсім сьвеце, а так-жа й для Беларускага народу.

## Будова памятніка Ядвігіну Ш.

Рэдакцыйная Калегія часапісу беларускай моладзі „Шлях Моладзі“ заініцыявала будову памятніка беларускаму пісьменьніку Ядвігіну Ш. — Антону Лявіцкаму. У гэтай справе апублікавана ў № 4 „Шл. Мол.“ адозва, у якой Рэдакцыйная Калегія зварочваецца з просьбай да беларускага грамадзянства падтрымаць гэтую справу і прысылаць ахвяры на будову памятніка на адрыс рэдакцыі: „Šlach Moładzi“, Wilno, Zavalnaja 1.

## Mahčymaść pracy ŭ samaŭradzie

Hawaryć tut budziem ab mahčymaściach pracy tolki ŭ samaŭradzie terytoryjalnym. Samaŭrad haspadarčy ŭ našym krai, nie pamylimsia, kali skažam, što jon jašče ŭ zarodku.

Dyk jakija mahčymaści pracy ŭ samaŭradzie terytoryjalnym?

U hetaj halinie hramadzkaha žyćcia mahčymaści pracy wialikija, ale tolki z zachawańniem adnaho hałoŭnaha warunku — swabodnaj inicyjatywy i swabody pracy samaŭradawaj arhanizacyjnaj adzinki, wyklučajučy inicyjawańnie i kiraŭničyja nakazy samaŭradawaj dziejnaści zhary

Jak dziejuć i jakija rezultaty pracy našych samaŭradaŭ wałasnych i pawietawych apisywać nia budziem z peŭnych pryčyn, ale ab hetym i tak usim wiedama i wiedamyja pryčyny, dziela jakich jość tak a nia inakš.

My tut chočam źwiarnuć uwahu na toj adcinak našaha samaŭradu, kudy nie dachodzić nakaz zhary i mahčymaja swaboda dla inicyjatywy na miejscy. Hetkim adcinkam u našym samaŭradzie źjaŭlajecca wiaskowaja hramada, u jakoj spaŭniaje samaŭradawyja funkcyi hramadzkaja rada na čale z sołtysam.

Nowy samaŭradawy zakon z 1933 h. hruntoŭna źmianiŭ arhanizacyju ŭłady ŭ hramadzie. Na miejsca daŭniejšaha, dawoli wialikaha i šyrokaha, hramadzkaha sabrańnia zakon arhanizuje ciaśniejšuju samaŭradawuju ŭstanowu — hramadzkuju radu. Daŭniejšaje hramadzkaje sabrańnie zakon pakidaje tolki ŭ małych zusim hramadach.

Hramadzkaja rada wybiraje sołtysa i padsołtysa.

Hramadzkuju radu wybiraje nasielnictwa hramady.

Hety nowy samaŭradawy zakon daje prawa hramadzie mieć haspadarčuju sobskaść i joju kirawać, a tak-ža prawa dziejnaści, jak u halinie prywatna-praŭnaj, taksama i ŭ halinie dziejnaści publičnaj.

Praŭda, samaŭradawy zakon nie adkrywaje hramadzie specyjalnych žaroł dachodu, jak heta maje samaŭrad wałasny, ale zakon i nie nakazwaje hramadzkamu samaŭradu specyjalnaj dziejnaści, apračа taho, na što wałasny samaŭrad wyasyhnuje i daść hrošy.

Pry hetym musim adznačyć, što i hety nowy zakon samaŭradam na terytoryjach etnična niapolskich polskaje mowy nie nakidaje i pakidaje poŭnaje prawa i wolnuju swabodu karystacca ŭ samaŭradawym žyćci i dziejnaści mowaj miajscowaha nasielnictwa, nia tolki ŭ mowie, ale i ŭ piśmie. Heta znača, što na etnohrafična-biełaruskich ziemlach, biełarusy ŭ terytoryjalnym samaŭradzie majuć prawa hawaryć i pisać pabiełarusku.

Słowam, hramadzki samaŭrad nia maje z tytułu zakonu abawiazku haspadarča-hramadzkaha i inšaha publičnaha dziejańnia, ale maje prawa prawodzić takuju dziejnaść dabrawolna. Wyraźniej — moža wiaści rabotu hramadzkuju haspadarčuju i kulturna-aświetnuju koštam abo dachodaŭ z hramadzkaj majemaści, abo z dabrawolnych składkaŭ hramadzian. Moža prymać darawańni i achwiary na karyść patreb hramady. Moža tak-ža wystupać z inicyjatywaj da wałasnoha samaŭradu pieradańnia hramadzkamu samaŭradu matarjalnych srodkaŭ dziela wykanańnia, wyručajučy wałasny samaŭrad, na swajej terytoryi samaŭradawych zabawiazańniaŭ.

Apračа hetych mahčymaściaŭ, jakija dajuć na pracu matarjalnyja srodki, nie adbiraje mahčymaści pracy i adsutnaść matarjalnych srodkaŭ. Paza dziejnaściaj źwiazanaj z patrebami matarjalnych srodkaŭ jość tak-ža šyrokaje pole dla pracy, jakaja i nie kanieśnie wymahaje hrašowaha kapitału. Tut patrebny tolki kapitał hramadzkaj świedamaści i zrazumieńnia patreby pracy ŭ hramadzie i z hramadoj.

Da sfery takoj dziejnaści mohuć naležać: samaaświetnaja, zaškolnaja akcyja ŭ hramadzie — arhanizacyja hramadzkaj biblijateki-čytalni, haspadarčyja praktyčnyja doślеdy, hihijeničnyja karespandancyjnyja kursy, hetkija kursy kulinarnaj specyjalnaści, kultywawańnie narodnaha promysłu, mastactwa — pieśni, raźby, wyšywanak i h. d.

U tych hramadach, dzie jość žaroły matarjalnych dachodaŭ hramadzkaja rada maje prawa stawić narodnyja damy, zakładać pramysłowyja pradpryjemstwy — młyny, tartaki, cahielni, betaniarni i h. d., a tak-ža zawadzić stajni rasowaha raspłodu skaciny, arhanizawać daśledčyja i kulturna-pakaznyja haspadarki, zawodzić rybnyja stawy i h. d.

Słowam, mahčymaści pracy ŭ samaŭradzie wialikija, treba tolki dobraha zrazumieńnia patreby i karyści hetkaj pracy i patreba swabody dziejańnia i swabody inicyjatywy ŭ nizoch samaŭradawaj dziejnaści.

Biełaruskija hramadzkija samaŭrady na hetyja mahčymaści pracy pawinny źwiarnuć asabliwuju ŭwahu i ich naležna wykarystać.

Adnym słowam, treba na samaŭradawym adcinku pačynać pracu zdołu i hetak budawać naš terytoryjalny samaŭrad z nizoŭ až uwierch.

*p. k.*

## Sajuz Pracaŭnikoŭ Biełaruskaha Teatru „Płomień“ (Połymia) ŭ Biełastoku

U kooperatyŭnym polskim časapisie „Wspólnota Pracy“ u numary 7 z 1.IV.1937 h. abwieščana, što ŭ Biełastoku 5 lutaha 1937 h. zarejestrawana ŭ Akružnym Sudzie kooperatyŭnaja supałka: Sajuz Pracaŭnikoŭ Biełaruskaha Teatru „Płomień“ (Połymia).

Hetaja kulturna-praświetnaja placoŭka, pawodle abwieščanaha statutu, zasnawałasia na padstawach kooperatyŭnych i maje na mecie šyreńnie teatralnaj kultury ŭ biełaruskich sieradowiščach.

Z druhoj polskaj hazety „Dziennik Białostocki“ № 107 z 19.IV.1937 dawiedwajemsia, što Sajuz Pracaŭnikoŭ Biełaruskaha Teatru ŭ Biełastoku prystupiŭ da dziejnaści i što administracyjnyja ŭłady — za arhanizawańnie trupy pracaŭnikoŭ biełaruskaha teatru p. n. „Płomień“ (Połymia) biez naležnaha pawiedamleńnia ŭłady, ukarali Annu Obukowič na 200 zł. štrafu.

Dawiedwajemsia tak-ža, što administracyjnyja ŭłady nie dali hetamu Sajuzu dazwołu na kancert, jaki Sajuz mieŭ naładzić 4 traŭnia siol.

# Праграма БНА і Праца

*(З нагоды 1 Траўня).*

1-га Траўня, — гэта прадусім Сьвята Працы. У гэты дзень, такім чынам, належа нам прыпомніць адносіны Беларускага Народнага Аб‘еднаньня (БНА) да гэтай справы. Вось-жа гэтак выглядае Праца ў адпаведных артыкулах нашай праграмы:

*Арт. 1, в.:* БНА за такі грамадзкі лад, які, апіраючыся на працы, грамадзкай роўнасьці і справядлівасьці, не дапускаў-бы да эксплёатацыі адных другімі.

*Арт. 1, с.:* БНА проціў усякай дыктатуры, якая з сабой нясе паняволеньне народаў і працуючых масаў.

*Арт. 2.:* БНА ідзе да сваіх мэтаў між іншым дарогай арганізаваньня і ўсьведамляньня беларускага сялянства, работнікаў і інтэлігенцыі на грунце грамадзкай роўнасьці, справядлівасьці і беларускай народнай культуры.

*Арт. 5.:* БНА за свабоду сходаў, друку, слова, сумленьня, арганізацыі таварыстваў і прафэсыянальных саюзаў.

*Арт. 13.:* БНА за пашырэньне школ земляробскіх, тэхнічных і агулам прафэсыянальных.

*Арт. 15.:* БНА за тое, каб закладаючы бурсы і інтэрнаты, а такжа вызначаючы стыпэндыі на кошт дзяржавы і самаўрадаў, дапамагаць дзецям сялян і работнікаў здабываць сярэднюю і вышэйшую асьвету.

*Арт. 19, 20 і 21.:* БНА прынцыпова за прыватную ўласнасьць, але яна павінна быць так урэгулявана і абстаўлена законам, каб ня была шкоднай агульна-грамадзкаму дабру. Побач-жа з прыватнай уласнасьцяй можа быць так-жа й уласнасьць супольная (прыватна і публічна-грамадзкая), дзе гэтага хочуць людзі і дзе гэтага вымагае агульна-грамадзкае дабро.

*Арт. 26 і 27.:* БНА за гаспадарча самавыстарчальныя хутары, якія павінны мець зямлі ня больш такой нормы, якой хапае на дастатнае выжыўленьне і культурнае ўтрыманьне сялянскай сям‘і.

*Арт. 28.:* Беззямельныя і малазямельныя зямлю атрымоўваюць бяз выкупу.

*Арт. 38.:* БНА за праўную апеку над працоўнымі на зямлі, у фабрыках і над хатняй службай— адумысловым уставадаўствам.

*Арт. 39.:* БНА бароніць усе дасюлешнія соцыяльныя здабычы работнікаў, як час працы, абясьпечаньне на старасьць і інш., а такжа змагаецца за іх пашырэньне і далейшае разьвіцьцё.

*Арт. 40.:* БНА за салідарнасьць сялян, работнікаў і інтэлігенцыі і ўсіх працоўных.

Гэткая праграма Беларускага Народнага Аб‘еднаньня адносна Працы і працоўных людзей. Гэта праграма сучаснай дэмакрацыі, поступу і культуры.

**М. К.**

# Фашыстаманія

Менская савецкая прэса падае новыя весткі аб праявах фашыстаманіі ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы. Гэтым разам фашыстаманія праяўляецца на камуністычным олімпе – ў Саюзе Савецкіх Пісьменьнікаў БССР.

З гэтай прэсы даведваемся, што расейскія савецкія багі зьнялюбілі ўжо і такіх беларускіх бальшавіцкіх пісьменьнікаў, як: Цішка Гартны (Жылуновіч)—першы старшыня БССР, Міхась Чарот—тварэц беларускай пралетарскай паэзіі, М. Зарэцкі, Сымон Баранавых, Хадыка, Дудар, Вольны, Кляшторны, Сташэўскі, Лынькоў і інш.

З натхненьня"расейскіх інтэрнацыянальных багоў, яшчэ нязгубіўшыя ў іх ласкі, беларускі паэта А. Александровіч і „беларускі“ літаратурны крытык А. Кучар, авееныя псыхозай фашыстаманіі „адкрылі“ ў творчасьці вышменаваных пісьменьнікаў: „фашызм,“ „нацдэмаўшчыну,“ „белабандытызм,“ „троцкізм,“ „нацыяналізм,“ „здрадніцкую заразу“ і шмат падобных грахоў супроць расейскага „інтэрнацыяналізму.“

Аб гэтым у „Зьвязьдзе“ (№ 69 і 70 з 1937) у артыкулах Александровіча і Кучара чытаем.

— Цішка Гартны — гэта заядлы вораг савецкае ўлады; творчасьць яго шкодная, бяздарная, а ён сам правакатар і нацыяналіст.

Чарот — гэта вораг народу, а творчасьць яго поўная подлага здрадніцтва інтарэсаў краіны.

Зарэцкі — контрэвалюцыянэр, мярзотнік і нягоднік, які ў сваей творчасьці праводзіў праграму нацыянал-фашызму.

Баранавых — ядавітая кулацкая гадзіна, а культура яго на ўзроўні дарэвалюцыйнага канавала.

Вольны, Хадыка, Кляшторны і іншыя — гэта гнусныя тыпы, атручаныя чадам алькаголю, якія дзеля разлажэньня радоў савецкіх пісьменьнікаў насаджалі бытавы расклад, п‘янства, багему, ад якой адзін шаг да фашызму. —

Вось якія грахі супроць савецкага ладу „выкрылі“ ў сваіх таварышоў Александровіч з Кучарам.

Сапраўды фашыстаманія!.

А можа ў падставе і сапраўдная фашызацыя?.. Бо галоўным у гэтай справе, нам так здаецца, будзе тое, аб чым цьвердзяць Александровіч з Кучарам у канцы і між іншым — што Чарот з Гаротным быццам выступалі „проціў магутнае рускае культуры і проціў магутнага рускага народу,“ а гэтым хацелі адарваць Беларускі народ ад Рускага народу і іншых народаў Саветаў.

Словам, адным узмахам пяра Александровіч з Кучарам, з натхненьня багоў расейскага інтэрнацыяналу напісалі акт абвінавачаньня на Саюз Беларускіх Савецкіх Пісьменьнікаў. Цяпер астаецца толькі аформіць—абвінаваціць фармальна і фармальна засудзіць.

Але ў чым сапраўдная віна гэтых абвінавачаных Алексадровічам і Кучарам беларускіх савецкіх пісьменьнікаў?

Трэба ведаць—і аб гэтым даўно ўсім ведама, што ўсе абвінавачаныя — гэта камуністычныя пісьменьнікі, якія маюць бальшавіцкі стаж і камуністычную прошласьць, але яны мусіць ня выракліся свайго беларускага перварадзтва і вось за гэты перварoдны „грэх“ цяпер на іх раззлаваліся багі расейскага інтэрнацыяналу, які на гэтым баку рыскае мяжы называецца фашызмам.

*Я. Д.*

## У Украінцаў.

*Зьезд „Маслосоюзу“.* У мінулым тыдні адбыўся чарговы агульны зьезд прадстаўнікоў вялікай украінскай, гаспадарча-ганцлёвай, коопэратыўнай арганізацыі „Маслосоюз“. Зьезд выявіў жывучасьць і вялікую дзейнасьць гэтай арганізацыі.

*„Таварыства Украінскіх Аграномаў“.* У мінулым годзе гэтая новая украінская арганізацыя прыступіла да працы, заснаваўшы цэнтралю ў Львове. Сёлета 19 г. м. адбыўся першы зьезд прадстаўнікоў гэтай арганізацыі з учасьцем 80 сяброў.

*Прасьлед украінцаў у Румыніі.* Цяжка жывецца украінцам пад Румыніяй. Апошнімі часамі румынская ўлада жорстка прасьледуе украінскі рух і срога распраўляецца з украінскімі дзеячамі. Надовячы румынскі суд засудзіў украінскіх дзеячоў: Ул. Тадорюка на 5 гадоў астрогу і вялікую грашовую кару, Сцяп. Насадюка на 4 гады астрогу і грашовую кару, Ів. Грыгоровіча і Д. Квітковського на 2 гады з грашовай карай і Ів. Бучко на 6 месяцаў астрогу і грашовую кару.

# Biełaruski litaraturny wiečar u Palakoŭ

Razwoj maładoj biełaruskaj litaratury, jejnyja artystyčnyja wartaści, a tak-ža wyražanyja ŭ joj utylitarnyja mamenty štoraz to bolš stanowiacca pradmietam wialikaha zainteresawańnia ŭ našych susiednich narodaŭ. Dokazam hetaha zainteresawańnia— štoraz čaściejšyja zaŭwahi, krytyčnyja artykuły i infarmacyi ab hetaj litaratury na bačynach polskaj, litoŭskaj, ukrainskaj i inš. presy, jak specyjalnaj, jakaja razwažaje litaraturnyja pytańni, tak i presy inšaha charaktaru.

Z usich maładych paetaŭ, jakija pražywajuć i tworać na biełaruskich ziemlach z hetaha boku ryskaj miažy, budzić asabliŭšaje zainteresawańnie tworčašć Michasia Mašary, Maksima Tanka, Michasia Wasilka, Natalli Arsieńniewaj, Chwiedara Illašewiča. Ničoha ŭ hetym dziŭnaha. Na tworčaści hetaj „piaciorki“ možna paznać usie charakternyja rysy biełaruskaj nawiejšaj litaratury tak u aspekcie artystyčnych wartaściaŭ i i dasiahnieńniaŭ, jak i ŭ aspekcie ideolohičnym.

Dnia 18-ha h. m. adbyŭsia ŭ Wilni ŭ prywatnym pamieščańni adwakata Branisława Kryžanoŭskaha litaraturny wiečar, pryświečany abznajamleńniu z tworčaściu adnaho z pieradawych zachodnia-biełaruskich paetaŭ, maładoha i wysaka ŭtalentawanaha Maksima Tanka. Wiečar mieŭ charaktar prywatny. Byli prysutnymi z Palakoŭ dziejačy z palityčnaha świetu, pradstaŭniki wilenskaj palestry i presy, dziejačy nawuki i litaratury, byli prysutnyja i niekalki Biełarusaŭ — usich prysutnych kala 30 asob.

U ŭstupnym słowie karotkimi słowami painfarmawana prysutnych ab razwoju maładoha biełaruskaha pryhožaha piśmienstwa ŭ apošnija hady ŭ Wilni, ab ciažkich mataryjalnych warunkach, u jakich hety razwoj adbywajecca,abznajomlena z ułaściwaściami hetaha piśmienstwa, padčyrkiwajučy jaho sialanski i razam z hetym emocyjanalny charaktar, a tak-ža adznačana rola ŭ litaraturnym razwoju biełaruskich časapisaŭ „Kałośsia,“ „Letapisu,“ „Šlachu Moładzi“ i „Maładoj Biełarusi.“ Skazana ab tworčaści Tanka, Mašary, Arsieńniewaj, Michasia Wasilka i inš., šyrej scharaktaryzawana tworčašć Tanka, jakaja adroźniwajecca ad tworčaści inšych paetaŭ wialikaj kankretnaściu i niekatorymi nowymi mastackimi pryjomami ŭ halinie stylu, mowy i ahułam u technicy tworstwa.

Dalej — Maksim Tank pračytaŭ pa niekalki charakternych tworaŭ Michasia Mašary, Michasia Wasilka, Natalli Arsieńniewaj, Niny Taras i Chw. Illašewiča i potym daŭžej spyniŭsia na čytańni swaich tworaŭ — frahmentaŭ 4,5,6 čaściaŭ, 7 čaści paemy „Narač“, „Pieśni kulikoŭ“ i niekalki drabniejšych wieršaŭ.

Nasyčanyja hłybokim ideowym źmiestam, poŭnyja realizmu i wysaka artystyčnyja twory, pračytanyja z praŭdziwaj ščyraściu i daskanalnaściu ŭ praciahu blizka 2-ch hadzin maładym biełaruskim pieśniarom, jak-ža skromnym, natchnionym i majestatyčnym u swajej pastawie, čarawali i zachopliwali prysutnych. Wiečar byŭ pierakanaŭčym pakazam tworčych zdolnaściaŭ biełaruskaha narodu ŭ asobie jahonych synoŭ, jahonych pryhožych imknieńniaŭ, byŭ pakazam sapraŭdnaj krasy biełaruskaha słowa. Mecenas Kryžanoŭski, arhanizatar hetaj pryhožaj i karysnaj imprezy, ad imia prysutnych, zmučanych, jak jon kaža, „wraženiami“ ad pračytanych tworaŭ „prawdziwie utalentowanego poety,“ z haračym pačućciom padziakawaŭ Tanku za jahony wystup. Paśla hetaha adbyłasia karotkaja i cikawaja dyskusija, u jakoj adznačany wialiki postup i razwoj biełaruskaj litaratury, litaratury narodu, jaki nia tak daŭna raspačaŭ swoj kulturny i hramadzka-palityčny renesans. Jošć jana—litaratura—mocna realistyčnaja dobra wyražaje sapraŭdnaje žyćcio, patreby i imknieńni biełaruskaha narodu.

Prysutny na wiečary hienerał Želihoŭski padčas dyskusii, zakranuŭ pytańnie z haliny historyjazofii. Pramoŭca, hienarał Želihoŭski kazaŭ, što ŭsie sławianskija narody majuć tendencyju da złučeńnia, žyć u pryjaźni i zhodzie. Historyja dakazwaje što nikoli sławianskija narody, jak narody, nie wiali pamiž saboj baraćby, wojnaŭ – kali byli wojny, to jany byli wyklikany dynastyčnymi intaresami i wialisia dynastami, čužymi z ducha i krywi sławianskim narodam.

U adnosinach da biełaruskaha narodu, u mowie katoraha, kazaŭ hien. Želihoŭski, Jahajła paśla šlubu z Jadwihaj skazaŭ u Krakawie pramowu da polskaha senatu, sučasnaja Polšč „nia choča, ci nia maje času“ zrazumieć swaju rolu.

Dr. S. Wysłouch wyraziŭ pažadańnie, škirawanaje da maładoha biełaruskaha pakaleńnia, kab jano zajmałasia arhaničnaj pracaj, pracaj ad asnoŭ, šyračy nacyjanalnuju świedamašć, aświetu i kulturu siarod narodnych biełaruskich huščaŭ. Na heta adkazana, što Biełarusy takuju arhaničnuju pracu wykonywajuć u mieru mahčymaści ŭ sučasnych warunkach, u jakich biełaruskaja praca napatykaje na wialikija trudnaści.

Hienerał Želihoŭski u kancy adznačyŭ, što praca arhaničnaja musić dapaŭniacca pracaj wyšejšaj katehoryi palityčnaj, stratehijaj i taktykaj...

**J. Š.**

## Asabistaje.

20 krasavika ŭ parachvijalnym Tabaryskim kaściele adbyŭsia šlub, dziejnaha siabry BNA i sakratara b. hurtka BIHiK u Juškach,hram. Jazepa Dulki z hram. Hannaj Piatkievičankaj.

Maładoj pary žadajem ščaścia ŭ ich nowym žyćci i dalejšaj pracy na biełaruskaj niwie.

## U Litoŭcaŭ

**Jašče zakrywajuć.** № 29 „Viln. Ryt.“ pawiedamlaje, što Lidzki pawietawy starasta zakryŭ čytalniu T-wa „Rytas“ u siale Stražuny, Ejšyskaj wołaści.

**Sudziać redaktaraŭ.** Litoŭskaja presa („Viln. Rytojus“ i „Viln. Žodis“) pawiedamlaje ab całym radzie apošnim časam sudowych pracesaŭ nad litoŭskimi redaktarami. U wadnych pracesach redaktary apraŭdany, u druhich pakarany.

**Sudziać dziejačoŭ z T-wa św. Kazimiera.** Taja-ž litoŭskaja presa padaje, što niadaŭna adbylisia try sudowyja pracesy nad tryma dziejačami z T-wa św. Kazimiera. Try henyja pracesy adbywalisia nad abwinawačanymi byccam za nielehalnuju pracu. Ŭwa ŭsich hetych troch pracesach Sud abwinawačanych apraŭdaŭ.

**U Sanitarnym Tawarystwie nowy ŭrad.** U Litoŭskim Sanitarnym T-wie adbylisia wybary nowaha ŭradu. Staršynioj wybrany dr. A. Rymas, a dr. V. Legejka jaho zastupnikam.

**Nie dajuć dazwołu.** Litoŭcy mieli namier wydawać časapis „Šviesa“. Starasta na heta nie pazwoliŭ. Tady dumali wydawać: „Musu Gairis“ abo „Musu Takas“. Starasta i na heta nie dazwoliŭ.

**Adnadnioŭka.** Wyjšła adnadnioŭka „Pavasario Šnekos“. Jošć heta wydawiectwa litoŭskaj moładzi.

**Damahajecca „paprawić“ proźwiščy.** Wilenski Arcybiskupski Sud prysłaŭ probaršču ŭ Mieleganach „polecenie“, kab jon paprawiŭ u metrykach niekatoryja proźwiščy, kab było napr.: zamiest Motiejunas— Maciejun, zamiest Čepulis—Czepulaniec, zamiest Žemaitis – Žamejć i h. d. Słowam, wychodzić z hetaha, što litoŭcy nazywacca palitoŭsku nia mohuć. Biełarusaŭ tak-ža ŭ polskich metrykach zapiswajuć na polski ład.

**Spyniena akančalna.** Dziejnašć Wilenskaha Litoŭskaha Haspadarčaha T-wa ŭ pryhraničnaj pałasie Wilenskaha wajawodztwa spyniŭ Wilenski Wajawoda. Tawarystwa ad hetaj pastanowy apelawała ŭ ministerstwa. Ministerstwa paćwierdziła pastanowu Wajawody.

## S.S.S.R. na nowych etapach

U Sawietach adbywajucca pieramieny, jakija zwaročwajuć na siabie ŭwahu nia tolki susiednich dziaržaŭ, ale i apiniju ŭsiaho palityčnaha świetu.

Nia ŭsio wiedama paza miežami SSSR, što tam dziejecca ŭ palitycy haspadarčaj i ahułam u palitycy nutranoha žyćcia, bo Sawiety zamknuty sami ŭ sabie, ale i tyja wiestki ab žyćci ŭ SSSR, jakija adtul pierachodziać sawieckuju hranicu, pakazwajuć, što tam adbywajucca wialikija pieramieny.

Praŭda, hetyja wiestki bywajuć fałšywyja i tendencyjnyja, bo ich raspaŭsiudžwajuć abo sawieckija praciŭniki, abo sama sawieckaja prapahanda. Adnak mnohija z ich źjaŭlajucca niezapiarečnymi faktami i świedčać ab tym, što Sawiety źmianiajuć swaju dasiulešniuju nutranuju palityku, jakaja nia moža źnia cikawić i nas, biełarusaŭ.

Treba pryznać, što ŭ SSSR nad roznarodnymi wypadkami, krywawymi i na pahlad chaotyčnymi, panuje konsekwentnaja palityčnaja dumka. Chočačy zarjentawacca ŭ raźwićci palityčnaj dumki ŭ SSSR, treba šukać hetaj dumki ŭ kiraŭnictwie sawieckaj palityki, nia hublajučysia ŭ chaotyčnych piarečnych infarmacyjach ab padziejach u Sawietach. Bo sawieckija praciŭniki ŭściaž hamoniać ab razwale i ŭpadku Sawietaŭ, a sawieckaja prapahanda biazupynna ćwierdzić ab stałym, pastupowym razwoi i hihantyčnym socyjalistyčnym tam budaŭnictwie.

Dyk woźmiem pad uwahu takija niezapiarečnyja fakty, jak nowaja Sawieckaja kanstytucyja, jakaja, praŭdu kažučy, jašče ŭ žyćcio nia ŭwiedziena, sudowyja pracesy trockistaŭ, aryšty i wydaleńni starych balšawickich rewalucyjaneraŭ pad widam baraćby z „prawym“ i „lewym“ ukłonam u kamunistyčnaj partyi, a ŭ kancy aryšty siarod kiraŭnikoŭ GPU razam z kamisaram Jagodaj i z hetaha zrobim wywad.

My nia možam ćwierdzić, što hetyja i ŭsie inšyja padziei pakazwajuć na ŭpadak sawieckaje systemy i na razwał SSSR. Na naš pahlad — heta ništo inšaje, jak tolki padhatoŭka da wialikaj pieramieny ŭ nutranoj sawieckaj palitycy.

U jakim kirunku pojduć hetyja pieramieny — dakładna pradstawić niama padstawy.

Kali ŭziać pad uwahu zwarot rasiejskaj kamunistyčnaj presy z internacyjanalnaj linii na šlach rasiejskaha patryjatyzmu, ab čym świedčać bačyny „Prawdy,“ „Izwiestij“ i inšych hazet, dzie na miejscy daŭniejšych internacyjanalnych kličaŭ drukujucca takija woś aforyzmy, jak „našaja darahaja wialikaja baćkaŭščyna,“ „słaŭnaja i mahutnaja rasiejskaja kultura,“ „słaŭnaja naša armija,“ „bahataja prošłaść ruskaha naroda“ i h. d., dyk treba spadziawacca, što daśpiewajučyja pieramieny pojduć u kirunku jašče macniejšaj centralizacyi SSSR z pašyreńniem „słaŭnaj i mahutnaj rasiejskaj kultury“ na ŭsie nacyjanalna sajuznyja i aŭtanamičnyja respubliki.

Na heta pakazwajuć i mnohija inšyja fakty: zaniapad antyrelihijnaj akcyi, balšawickaja ciarpimaść raźwićcia relihijnaha — arhanizawanaha carkoŭnaha žyćcia, napady ŭ balšawickaj presie na nierasiejskich balšawickich piśmieńnikaŭ, pawarot da słaŭleńnia, i tak słaŭnaj, tworčaści Puškina, pieraacenka wartaściaŭ histaryčnych rasiejskaj prošłaści i nawiazywańnie z joj duchowaj łučnaści z sučasnaściaj i h. d.

Słowam, možna spadziawacca, što nowy etap sawieckaj palityki budzie pachodam — da mahutnaści SSSR, abapiortaha na *„słaŭnaj i mahutnaj rasiejskaj kultury“ i „wialikim ruskim narodzie“ z „słaŭnaj i silnaj sawieckaj armijaj.“*

*Грамадзяне Беларусы! Вучыце сваіх дзетак беларускай граматы! Дамагайцеся сваіх беларускіх школаў!*

## Suproć kamunizmu i suproć fašyzmu

Palityčna-hramadzkaja reakcyja starałasia i starajecca dakazywać, što na palityčna-hramadzkaj arenie ciapier boracca tolki dźwie warožyja miž saboju siły — fašyzm z kamunizmam.

Hetkaje ćwierdžańnie prawodziłasia planowa i systematyčna dziela taho, kab usie hramadzkija dziejniki, jakija nia mohuć pahadzicca z kamunizmam pastawić pa staranie fašyzmu i hetym dać pieramohu apošniamu — fašyzmu.

U hetaj baraćbie za ŭładu nad narodami i hramadzianstwami, palityčna-hramadzkaja reakcyja wyeliminoŭwajučy demakratyčny dziejnik, nazywajučy jaho rasiejskaj „kierenščynaj“ — prawadnikom kamunizmu i namahajučysia pieraciahnuć na swoj bok dziejnik chryścijanski, biaručy niby ŭ abaronu chryścijanskuju cywilizacyju ad kamunistyčnaha barbarstwa, namahałasia stwaryć u hramadzianstwach takoje paniaćcie, što ŭsialakaja palityčnaja baraćba, heta wajna Ormudza z Arymanam.

Ormudz — heta boh światła, Aryman — boh ciemry.

Klerykalnaja presa ŭžo nia stydałasia dakazywać, što niekatoryja fašystaŭskija wajaki — heta abarońniki sprawy Božaj, a kamunisty i ŭsie niefašysty — heta starońniki djabła. Słowam, klerykały ŭžo byli abwieścili i ormudzka-arymanskuju wajnu, stawiačy pa staranie djabła kamunistaŭ, socyjalistaŭ i ŭsich demakrataŭ, a pa staranie sprawy Božaj — fašystaŭ i „prawawiernych“ chryścijanaŭ.

Sapraŭdnyja-ž chryścijanie, taksama socyjalisty i ŭsie inšyja demakraty, biazupynna i stojka zmahalisia i dalej zmahajucca jak z kamunizmam, tak i z fašyzmam.

Dziakujučy stojkaści ŭ hetaj baraćbie demakratyčnych i sapraŭdnych chryścijanskich elementaŭ. Praŭda ŭžo widawočna pieramahaje. Źmianšajucca ŭžo ŭpływy ŭ hramadzianstwach i kamunizmu, i fašyzmu. Na miejsca hetych supiarečnych siłaŭ wystupaje mahutny, wolny demakratyzm.

Ab hetym świedčać nastupnyja fakty.

U Francyi pieramožna trymaje ŭładu demakracyja. Urad premjera Bluma, suproć katoraha hetak wostra wystupała suświetnaja reakcyja i jaje klerykalnyja padhałoski, biaskroŭna i biez koncentracyjnych łahieraŭ pieramožna ŭkraplaje ŭ krai demakratyčny ład i paradak. Tam z hetym demakratyčnym uradam, jaki fašystoŭska-klerykalnaja presa abzywaje „žydoŭska-kamunistyčnaj“ supałkaj, Katalicki Kaścioł u poŭnaj zhodzie i nie adčuwaje nijakaha praśledu. Hetkaje pałažeńnie relihijnaha žyćcia ŭ Francyi paćwiardžajuć francuskija katalickija duchoŭnyja ŭłady pryjaznymi adnosinami da taho-ž „žydoŭska-kamunistyčnaha“ ŭradu premjera Bluma.

U Belhii na pierawybarach pasła ŭ parlamant u Brukseli, jakija adbylisia 11 h. m., pieramoh pradstaŭnik demakracyi — ciapierašni premjer Van Zeeland pradstaŭnika reksistaŭ (belhijskich fašystaŭ) Degrela.

Pry hetym treba adciemić i toj fakt, što katalicki kardynał — Brukselski biskup pierad hałasawańniem wydaŭ adozwu da katalickaha nasielnictwa swajej dyjecezyi, kab hałasawali za pradstaŭnika demakracyi Van Zeelanda i nie hałasawali za pradstaŭnika fašyzmu Degrela.

U Anhlii premjer uradu Baldwin nadowiačy ŭ pramowie da narodu ŭ swaim wybarnym wokruhu zajawiŭ, što ŭnutry Anhlii jaho ŭrad naroŭni adnosicca, jak da kamunizmu, taksama i da fašyzmu, ćwierdziačy, što hramadzianstwa musić zmahacca adnolkawa, jak z prajawami kamunizmu, taksama i z bakcylami fašyzmu.

Socyjalistyčny Internacyjanał hetymi dniami wydaŭ adozwu da ŭsich socyjalistaŭ świetu z zaklikam, kab sioleta ŭ 1 Majskim świacie adznačyć stojkaść za demakratyčny ład u dziaržawach, abwiaščajučy hetym bieskampramisowuju baraćbu z fašyzmam.

Katalicki Kaścioł u asobie Papy Pija XI. apošnimi časami wystupiŭ tak-ža i prociŭ kamunizmu, i prociŭ fašyzmu. Papa ŭ swaich encyklikach ścwiardžaje, što jak kamunizm, tak i fašyzm, jaki prajaŭlajecca ŭ Niamieččynie pad kiraŭnictwam Hitlera, jość supiarečnyja z prawami Božymi, z Chrystowaj nawukaj.

Ahułam kažučy, fašyzm užo wianie ad jadu swaich dzikich pładoŭ, a kamunizm sochnie tak-ža zatruciŭšysia swaimi sokami.

Na zakančeńnie treba adznačyć, što paśla aŭtorytetnaha słowa haławy Katalickaha Kaścioła ab fašyzmie, klerykalnyja padhałoski reakcyi tak-ža źmianili ton i ŭžo hierojaŭ fašyzmu nia stawiać pradstaŭnikami Ormudza.

Słowam, zhodna z papskimi encyklikami i kwalifikujučy klerykałaŭ pawodle ichnich dasiulešnich adnosinaŭ da fašyzmu — hitleryzmu, dy karystajučysia dasiulešniaj klerykalnaj klasyfikacyjnaj terminalohijaj, ciapier treba pastawić pad ściah Arymana razam z kamunistymi tak-ža fašystaŭ i ichnich klerykalnych padhałoskaŭ.

## O.Z.N. i B.B.

U minułym tydni — 19 h. m., adbyŭsia ŭ Wilni źjezd pradstaŭnikoŭ miaščanstwa našaha kraju — burmistraŭ, pradstaŭnikoŭ polskaha handlu i promysłu, miestačkowych polskich arhanizacyjaŭ i paasobnych asob — pad firmaj nowaj polskaj palityčnaj partyi „Obóz Zjednoczenia Narodowego“ (OZN). Hety źjezd byŭ sklikany pradstaŭnikami OZN i adbyŭsia jak narada siabroŭ hetaj partyi.

Praŭda, naradaŭ na źjeździe nia było, bo byli tolki pračytany referaty, prysutnyja referataŭ pasłuchali i biaz dyskusii razyšlisia. Na źjeździe byli pradstaŭnikami našaha miaščanstwa pierawažna tyja ludzi, što niadaŭna dziejali tak-ža patryjatyčna pad firmaj BB.

Prad źjezdam adbyłasia konferencyja z pradstaŭnikmi presy, na jakoj arhanizatary OZN. wyjaśnili, što hetaja nowaja partyja tworycca zusim niezaležna ad uradu i dziaržaŭnaj administracyi i, što jana źjaŭlajecca arhanizacyjaj nacyjanalna polskaj i nia maje namieru achaplać swaimi zasiahami nacyjanalnych mienšaściaŭ.

Pry hetym treba adznačyć, što arhanizatary OZN starajucca adchryścicca ad BB i wytykajuć hetaj apošniaj mnohija jaje niedarečnaści.

Tymčasam u OZN iduć pierawažna tyja ludzi, jakija dziejali ŭ BB.

Dyk ci nia budzie heta toje samaje, ale tolki na inšy ład?...

## Zabarona manifestacyi „Stron. Ludowaha” i krywawyja padziei ŭ Racławicach.

U Racławicach, Kieleckaha wajawodztwa, „Stronnictwo Ludowe“ mieła naładzić 19 h. m. u pamiać sialanskaha paŭstańnia i bitwy pad pawadyrstwam T. Kaściuški na poli pad Racławicami, sialanskuju manifestacyju. Urad hetuju manifestacyju zabaraniŭ.

Dziela taho, što ŭrad naładžańnie hetaj manifestacyi zabaraniŭ, ułady „Str. Ludowaha“ spynili padhatoŭku źjezdu i adklikali manifestacyju. Niezważajučy na heta, častka ahitataraŭ, jak padaje „PAT“, prybyła ŭ Racławicy i wykarystała masawaje ŭčaście ludziej na nabaženstwie: ahitatary prabawali padburyć narod suproć ułady publičnaj biaspiečnaści. U wyniku hetaj ahitacyi na addzieł palicyi, jaki prachodziŭ praz Racławicy, užo pa nabaženstwie, źniačeŭku pasypalisia strełу i kamieńni. Palicyja była zmušana ŭ abaronie siabie skarystać z aružža i zabiła adnaho z napaśnikaŭ K. Karkowskaha, a druhi ciažka ranieny pamior. Dwa inšyja napaśniki ranieny lohka. Siarod palicejskich niekalki ciažka raniena i bolš lahčej pabitych. Druhi addzieł palicyi chutka ŭcišyŭ buntujučychsia i nawioŭ ład, zatrymaŭšy šmat napaśnikaŭ i ahitataraŭ. Paśla hetaha sudowyja ŭłady pačali śledztwa.

Wyšej apisanaje padajom pawodle infarmacyi PAT.

## Krywawaja ruina Hišpanii.

Užo 10-ty miesiac Hišpanija topicca ŭ krywi — 19 h. m. minuła 9 miesiacaŭ, jak fašysty pačali tam chatniuju wajnu, a cywilizawanaja Eŭropa, niby šukajučy sposabu spynieńnia hetaha prastupstwa, prabuje daskanałaści techniki swajej zbroi ŭ hetaj wajnie i šukaje raźwiazki šyrejšych eŭrapejskich palityčnych prablemaŭ.

Śpiarša paŭstaŭ kamitet niainterwencyi, jaki niby mieŭ spynić učaście ŭ hetaj wajnie wonkawaj siły — čužych dziaržaŭ, adnak hetaha nia spyniŭ i wyjawiłasia, što na terytoryi Hišpanii wajujuć pierawažna čužyja siły. Paśla hetaha zastasawana h. zw kantrola dziela spynieńnia ŭwozu ŭ Hišpaniju nowych wajennych siłaŭ i zbroi zwonku, ale heta tady, kali fašystaŭskaja armija dobra zarhanizawałasia i zrabiła zapasy amunicyi.

Hišpanski respublikanski ŭrad na kantrolu nie zhadziŭsia i zajawiŭ, što ciapier hetaj kantroli nie paddasca.

Dalejšyja bai ŭ Hišpanii adbywajucca z źmiennymi pieramohami to fašystaŭ, to respublikancaŭ.

Apošnimi časami fašysty nastupajuć na Baskaŭ, jakija wielmi hierojska baroniać swajej narodnaj samastojnaści, wiedajučy, što pad uładaj fašyzmu niama mahčymaści i swabody dziela raźwićcia asobnaj baskijskaj kultury i ahułam narodnaj baskijskaj samabytnaści.

Na inšych frontach tak-ža adbywajucca bai z źmiennaj pieramohaj.

# Z wioski

### Bjuć, ci nia bjuć?

**Nawahradak.** Nadowiačy ŭ Akružnym Sudzie ŭ Nawahradku adbyŭsia sud nad Al. Jarmałkowičam, Mich. i Janam Ruskimi i And. Chałupkaj, abwinawačynymi za rabunkowy napad na siamju Woltowičaŭ u w. Harbatowičach.

Ruski Michał i Jan pryznalisia da winy i zajawili, što apriača ich u hetym napadzie na Waltowičaŭ bolej nikoha nia było. Jarmałowič i Chałupka zajawili, što jany napadu nie rabili i nia čujucca winawatymi. Suddzia źwiarnuŭ uwahu, što abwinawačanyja ŭ śledztwie pakazwali inakš — Jan Ruski kazaŭ, što byŭ u napadzie i And. Chałupka, i što sam Chałupka pryznaŭsia da winy. Na heta abwinawačanyja zajawili, što hetak hawaryć ich zmusiŭ „wywiadowca,“ pahrozaj bićcia And. Chałupku, a Janu Ruskamu byccam lili wadu ŭ nos. Prakuror hetamu zapiarečyŭ. Paśla razhladu sprawy Sud abwieściŭ prysud, jakim zasudžany — Michał Ruski na 6 hadoŭ, Jan Ruski na 5 hadoŭ astrohu, a Al. Jarmałowič i And. Chałupka apraŭdany.

Paśla prysudu astałasia da wyjaśnieńnia zajawa abwinawačanych — bili ci nia bili ich u palicyi?

*Prysutny.*

### Moładź nie palanizujecca.

**Soły**, Ašmianskaha paw. Hadoŭ 10 tamu nazad wyhladała na toje, što našaja moładź budzie palanizawacca i zabywacca nia tolki rodnych zwyčajaŭ, ale i mowy. Na heta pakazwali, hustoj sietkaj razmieščany pa našych siołach, polskija arhanizacyi, polskija škoły, wykľučna polskaja mowa ŭradaŭcaŭ u miajscowych samaŭradawych i administracyjnych ustanowach, silny duch polščyny ŭ kaściele i hetak kruhom. Tymčasam prajšło 10 hadoŭ, našaja moładź prajšła praz polskija škoły, u wialikaj miery zapiswałasia ŭ polskija arhanizacyi, pačała ŭžo stykacca ŭ žyćci z polskimi ŭradami, nie adyjšła ad katalickaj wiery i nie spalanizawałasia. Mała taho, što nie zahubiła swajej biełaruskaści, ale jaje ŭ siabie pahłybiła. Ciapierašniaja moładź biełaruskaj mowy nidzie nia stydajecca i ŭsiudy haworyć pabiełarusku, śpiawaje biełaruskija pieśni i trymajecca swaich zwyčajaŭ. Sučasnaja moładź u sensie biełaruskaj stojkaści macniejšaja ad swajho papiaredniaha pakaleńnia. Ahulny ŭzrowień kulturny padymaje ŭ moładzi i narodnuju świedamaść. Našaja moładź u polskich škołach i polskich arhanizacyjach sama praz siabie sposabam praktyčnaha paraŭnańnia pierakonwajecca, što jana nia polskaha pachodžańnia, a z nawuki ab lubowi „ojčyzny“ — baćkaŭščyny i mowy nawučajecca lubić swaju rodnuju biełaruskuju mowu, a paśla ŭświedamlajecca i nacyjanalna.

Adnym słowam našaja moładź nie palanizujecca.

*A. Barawy.*

### Našaje nasielnictwa i miascowyja ŭradniki.

**Bohiń**, Brasłaŭskaha paw. Bohiń — heta byŭšy dwor. Ciapier tut centr hramadzkaha žyćcia całaj wakolicy. Jość prawasłaŭnaja carkwa i katalickaja (daŭniejšaja unijackaja) kaplica, jakija stanowiać centr relihijnaha žyćcia wakoličnaha nasielnictwa. Jość takža wałasnoje praŭleńnie, paciapierašniamu — hmina, dzie ŭraduje ŭprawa bohinskaha terytoryjalnaha samaŭradu, wobak samaŭradu jość „pastarunak“ palicyi, pačatkawaja — „paŭšechnaja“ škoła, lesnaja ŭprawa — „nadleśnictwa“ i wodny młyn.

Dwornuju ziamlu raskupili pierawažna šlachtuny miajscowaha pachodžańnia. Ŭsiu terytoryju bohinskaj wołaści zasialajuć u absalutnaj bolšaści biełarusy, jakija zaŭsiody pabiełarusku haworać, trymajucca swaich, biełaruskich zwyčajaŭ i ahułam trymajucca swajej rodnaj biełaruskaj kultury. Biełarusy tut stanowiać bolš 90 proc. usiaho nasielnictwa całaj wołaści.

Adnak u-wa ŭsich wyšej pieraličanych ustanowach, apriača carkwy, haworać ich reprezentanty da narodu papolsku, a reprezentant carkwy świaščeńnik rasiejec — parasiejsku.

Niejak dziŭna heta ŭsio wyhladaje, što dla biełarusaŭ isnujuć polskija samaŭrady, rasiejskaja carkwa, polskaja škoła i polski kaścioł, ale hetamu winawaty i samy biełarusy, bo zakony pryznajuć biełaruskuju mowu i dajuć prawa nia tolki hawaryć u samaŭradawych i dziaržaŭnaadministracyjnych ustanowach pabiełarusku, ale tak-ža i pabiełarusku pisać u hetyja ŭstanowy. Nichto praŭna nia moža zabaranić i malicca ŭ rodnaj mowie.

Jość u bohinskaj wołaści ŭžo i takija biełarusy, što ab hetych prawoch prypaminajuć i wałasnym pisarom, i palicyi i duchoŭnikam.

Woś adzin prykład. Adzin miajscowy žychar nadowiačy prybyŭ u kancelaryju wołaści i źwiarnuŭsia da pisaroŭ hram. Rydziki i Kaziukiewiča (adzin z-pad Ikaźni, a druhi z pad Drui, Brasłaŭskaha paw.) pabiełarusku z prośbaj zarejestrawać jaho rowar. Zamiest adkazu na pytańnie pisarčuki pačali interasanta pytacca, čamu nie haworyć da ich papolsku i pačali dakazywać, što wołaść heta polski „užond“ i što nijakaj Biełarusi niama, dyk treba hawaryć papolsku. Interasant adnak stajaŭ na swaim — hawaryŭ pabiełarusku i dakazywaŭ, što ŭ bohinskaj wołaści absalutnaja bolšaść nasielnictwa biełaruskaje, jakoje maje prawa ŭsiudy hawaryć pabiełarusku, a nia tolki ŭ kancelaryi swajej wołaści. Na heta pačułasia jašče dziŭniejšaje pajaśnieńnie z boku wałasnych pisarčukoŭ. Heta ničoha nia značyć, što tut biełarusy — tłumačyli pisarčuki — ale my tut prymajem interasantaŭ tolki papolsku, a kali chto papolsku nie razumieje, dyk parasiejsku. Paśla hetaha interasant kateharyčna patrebawaŭ spoŭnić jaho zakonnaje žadańnie haworačy dalej pabiełarusku. Sprawu wyrašyŭ wojt, jaki praciŭ biełaruskaj mowy nia wystupaŭ, ale wysłuchaŭšy interesanta zarejestrawaŭ jamu rowar i wydaŭ patrebnaje paświedčańnie.

Hety fakt niachaj budzie prykładam mnohim našym bohinskim ludziam, jakija zusim biespatrebna, nia ŭmiejučy hawaryć papolsku, prad woblikam padobnych pisarčukoŭ łomiać swoj jazyk, tručy šapku ŭ rukach, abo na polski abo na rasiejski ład.

Wiedajcie, što biełarusy majuć poŭnaje prawa hawaryć pabiełarusku ŭsiudy i nichto nia maje prawa ich zmušać, kab jany hawaryli abo papolsku, abo parasiejsku. *J. P.*

### Сялянскае гора на прадвесьні.

**Лужкі**, Дзісьненскага пав. Прыходзіць вясна, якой сяляне цэлы сёлетні год чакалі. Частыя неўраджаі ў нашых ваколіцах прычынілі нашаму сялянству шмат гора і многа бед. Леташні неўраджай у сялянскай эканоміцы зусім выключаў цяжка пражытую сёлетнюю зіму. З самай восені ў нашых сялян была сёлетняя зіма часам „прадвясеньнім.“ Недахоп хлеба і брак корму для скаціны сяляне адчувалі з самай восені. Цяпер, калі прыйшла вясна ўзмаглася і бяда. З прычыны недакормліваньня пачалі хварэць каровы. Многія прадавалі скаціну з восені, а некаторыя збываюць „лішнюю“ і цяпер, бо няма чым дахаваць да травы. Гэткім чынам бяднейшыя сем'і пазбыліся і апошняй каровы.

Нашае сялянства неарганізаванае, самапомачы няма ніякай. А трэба аб арганізацыі самапомачы патурбавацца. Каб была ў нас арганізацыя сялянскай самапомачы, то скарэй і ў цяперашняй бядзе мелі-б падмогу. Праўда, у воласьці і у павеце чутны турботы аб дапамозе сялянству ў цяперашняй бядзе, але патрэба дапамогі такая вялікая і такая шырокая, што гэтыя валасныя і паветавыя дапамаговыя акцыі ня могуць усяго ахапіць. Найгорш тут тое, што няма г. зв. вольнай арганізацыі сярод сялянства. Каб гэткія арганізацыі былі, яны шмат памаглі-б і ў барацьбе з сучасным голадам. *Селянін.*

# Što čuwać na świecie

**Ab polskich kamunistych.** Polskaja presa piša, što KPP (Kamunistyčnaja Partyja Polščy) pieražywaje ciapier nutrany kryzys. Ab hetym u polskich hazetach čytajem nastupnaje:

— Hrupa kamunistyčnaj intelihiencyi, jakaja składajecca hałoŭnym čynam z elementaŭ polskich, wyłamiłasia zpad partyjnaj dyscypliny dy wostra wystupiła i praciŭ stalincaŭ i praciŭ trockistaŭ.

## U POLŠČY.

**Źnižka cenaŭ.** Apošnimi časami ŭrad uziaŭsia za ŭnarmawańnie cenaŭ na spažywieckija pradukty i ŭsie inšyja tawary. U źwiazku z hetaj akcyjaj raźwiazaŭ urad mnoha h. zw. kartelaŭ — supałak pramysłowych i handlowych, jakija dabrawolna na abnižeńnie cenaŭ swajej pradukcyi nie pajšli i staralisia ŭtrymać wysokija ceny dalej.

**Krywawaja demanstracyja biezrabotnych u Radamie.** Nadowiačy ŭ Radamie natoŭp biezrabotnych namahaŭsia ŭwarwacca ŭ pamieščańnie Fundušu Pracy i pačaŭ bić wokny. Palicyja pryzywała da paradku, ale natoŭp nie pasłuchaŭ i nastupaŭ na palicyju. Dziela hetaha, jak padaje PAT, palicyja dziela swajej abarony była prymušana skarystać z aružža. U wyniku adzin biezrabotny byŭ ciažka ranieny, jaki ŭ špitali pamior.

**Z „Strn. Ludowaha.“** Hazety padajuć, što staršynia „Stron. Ludowaha“ b. maršałak Sojmu M. Rataj padaŭsia ŭ adstaŭku.

**Polskija endeki i abawiazujučaja Kanstytucyja.** Nadowiačy adbylisia ŭ Waršawie narady Hałoŭnaj Rady endeckaj partyi. Hetaja Rada wydała pastanowy, u jakich, miž inšym, haworycca, što — u Polščy ŭ peŭnym peryjadzie abwieščany postulat, što polskaja dziaržawa nia jość dziaržawaj polskaha narodu, ale źjaŭlajecca ŭsich jaje žycharoŭ; dziela hetaha, pawodle endekaŭ, byccam niama sładu ŭ kraju.

Na naš pahlad, nia heta źjaŭlajecca winoj endecka-sanacyjnaha nieparazumieńnia, a što inšaje, bo ŭ sapraŭdnaści samo žyćcio zapiarečwaje hetaje endeckaje ćwierdžańnie. Pry hetym treba adznačyć, što sučasnaja Kanstytucyja wyrazna kaža: „Polskaja Dziaržawa jość supolnym dabrom usich hramadzian.“ Jak widać, endeki i na heta nia mohuć zhadzicca.

## ZAHRANICAJ

**Statystyka koncentracyjnych łahieraŭ.** U Londanie abwieščana statystyka koncentracyjnych łahieraŭ u roznych krajoch Eŭropy. Anhielcy maŭčać ab sposabach uładańnia „wyšejšaj rasy“ nad „rasaj nižejšaj“ i padajuć hetuju statystyku biez kamantaraŭ.

Pieršaje miesca ŭ hetaj statystyčnaj tablicy addana „wyšejšaj rasie“ hitleraŭskaj Niamieččyny, jakaja swaju „rasowuju“ palityku ŭnutry prawodzić pry pomačy koncentr. łahieraŭ.

Na druhim miescy staić „katalickaja“ Italija. Treciaje miesca zajmaje kamunistyčny SSSR.

U hetaj statystycy ŭpisana i Polšč z Berezaj Kartuskaj.

**Baraćba za wolu ŭ Niamieččynie.** Zdušany hitleraŭskim režymam niamiecki narod abjaŭlaje niawoli wajnu. U zhuščanych centrach nielehalnaja arhanizacyja masawa kolportuje afiški, u jakich zaklikaje narod da woli i swabody. Afiški padpisany „Niamieckaj Partyjaj Swabody“.

**Trocki sudzicca z Stalinam.** Wyhnany z SSSR Trocki, jaki ciapier prabywaje ŭ Meksycy, arhanizuje hramadzki sud, jaki maje razhladzieć usie zakidy sawieckich uładaŭ adnosna Trockaha i wykazać objektyŭnuju praŭdu ŭ hetaj sprawie.

**Relihija pieramahaje biazbožnaść u SSSR.** Sawieckaja presa padaje, što prošłaj zimoj sami kiraŭniki kałchozaŭ arhanizawali relihijnyja sabrańni i što mnohija kamunisty naležać da relihijnych bractwaŭ. Sialanie na Wadochryšča ładzili wialikija pracesii, u jakich brali ŭčaście i kamunisty. Na Kaŭkazie chodziać z relihijnymi pracesijami ŭ pole i paświačajuć pasiewy, a świaščeńniki adkryta zaklikajuć narod da baraćby z biazbožžam. Kałchoźniki adkryta chryściać dziaciej u cerkwach, čaho dasiul bajalisia ŭłady. U Maskwie relihijnyja tawarystwy źbirajuć na carkoŭnyja patreby wialikija sumy hrošaŭ: „Tryfono-Adryjanoŭskaje relihijnaje T-wa“ za apošnija try hady sabrała achwiar 668 tysiač rubloŭ, u carkwie Uskrašeńnia za hety čas sabrana 400 tysiač rubloŭ i h. d. U cerkwach wielmi dobra pastaŭleny na artystyčnaj wyšyni chory. Carkoŭnyja chory majuć hadawyja budžety bolš jak pa 20 tysiač rubloŭ i na heta ŭsio narod daje achwiary.

**Italijanskaja „cywilizacyja“ ŭ Abisynii.** Anhielskija hazety padajuć, što italijanskija akupacyjnyja ŭłady ŭ Abisynii wielmi žorstka raspraŭlajucca z tamašnim nasielnictwam. Paśla napadu na marš. Gracianiaha ŭ Addis-Abebie rastralali až niekalki tysiač abisyncaŭ; u toj čas 700 asob schawałasia ŭ padworyšcy amerykanskaha pasolstwa i nie chacieli adtul wychodzić i wyjšli tolki tady, kali italijanskija akupanty pryrakli prad amerykanskim pasłom, što ich nie rastralajuć. Ale kali wyjšli, dyk italijancy rastralali i ŭsich hetych abisyncaŭ. Ciapier abisyncy masawa ŭciakajuć z hranic swajej staronki, zachoplenaj italijancami, jakija ŭciakajučych abisyncaŭ zapyniajuć kulamiotami z araplanaŭ.





Выдавец А. ШУТОВІЧ—Вільня, Завальная 1.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні, Завальная 1—2.